# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1965

Травень-Чэрвень

Год XIII

№ 3

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1965 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.
У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

УВАГА: Да ўсіх беларускіх выдавецтваў зьвертаемся з просьбай прысылаць у нашу Рэдакцыю свае выданьні газэтаў, часапісаў, друкаў. Мы будзем сыстэматычна зьмяшчаць іхні агляд і даваць рэцэнзіі.

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XIII** **May - June** **Nr. 3 (90)**

**1965**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE., LONDON, N. 12
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год. XIII | ТРАВЕНЬ—ЧЭРВЕНЬ | № 3 (90)



*Саборная Літургія ў Базыліцы Съвятога Пятра ў Рыме-Ватыкане*
*Папа Павал VI з новымі — 27 — Кардыналамі*

## «КАЛЕГІЯ» У ЦАРКВЕ

«Пётр і Апосталы», «Пётр і якія зь ім», «Пётр і іншыя Апосталы»... Такія дзіўныя звароты ў Эванэліях і Апостальскіх Дзеях паказваюць першую КАЛЕГІЮ 12-ці Апосталаў, якіх Галавою быў ПЁТР. Нават гэты лік — 12 — быў спачатку неабходны: на месца адпаўшага Юды Іскарыёта ўвайшоў Мацей. Пасьля Сам Госпадзь паклікаў Саўла-Паўла, аднак лік 12 ізноў зыйшоўся, бо быў забіты Якуб (Старшы) паводле загаду цара Гэрада.

Падчас прасьледу і асабліва пасьля сьмерці Апосталаў КАЛЕГІЯ ў Царкве была нарушана і расцярушана, аднак ідэя аб ёй не загінула, як відаць з І-га САБОРУ ў Ніцэі ў 325 г., дзе япіскапы спаўнялі ролю Апосталаў, а Рымскі папа — праз сваіх дэлегатаў — ролю Пятра.

Пасьля Калегія ў Царкве праходзіць праз розныя фазы: Рымская «Галава» шмат цярпела падчас Вялікага Перасяленьня Народаў, а пасьля ў спрэчках з Усходам — найбольш у разьдзеле Цэркваў у 1054 г. Таксама ў нязгодзе з Заходнімі імператарамі і пасьля з пратэстантамі.

Усе няяснасьці і труднасьці ў арганізацыі Царкоўнае Калегіі мелі быць закончаны на I Ватыканскім Саборы ў 1870 г., але там толькі была акрэсьлена роля Рымскага папы — «Пятра ў Царкве»; роля япіскапаў у Царкве асталася на пазьнейшы час, бо Сабор быў тады перарваны вайною.

І вось II-гі Ватыканскі Сабор у 1962—3—4 г. падняў гэтую справу.

Неспадзявана знайшлася на Саборы *апазыцыя*, якая — з баязьні, каб Сабор не перавысіў папы — стала ў абароне папскае ўлады. І вось-жа тут зьдзівіўся ўвесь сьвет: пратэстанты думалі, што Сабор можа стаць супраць папы, а іншыя спадзяваліся, што папы самі будуць бараніцца перад супрэмацыяй Сабору. Аднак выйшла зусім праціўнае: папа Ян XXIII і пасьля Павал VI самі сталі ў абароне КАЛЕГІІ япіскапаў, згодна з бальшынёй Сабору і апазыцыя асталася вельмі нязначная і заціхла зусім.

Абодвы папы далі Сабору поўную свабоду слова і голасу і Павал VI ўканцы зацьвердзіў пастанову Сабору аб Калегіі япіскапаў.

Саборная апазыцыя паддалася.

Але яшчэ паўстала шумная апазыцыя ў Францыі супраць Папы Паула VI — дзеля яго некатарых аўтарытэтных сказаў і актаў на III-яй Сэсіі. Аднак гэтае «галіканства» ў Францыі было асуджанае французскім япіскапатам і таксама заціхла.

КАЛЕГІЯ япіскапаў мае ўфармавацца як «СЭНАТ» Царквы, на падабенства царкоўнага парляманту: якога ён будзе складу і характару, яшчэ няведама нікому. Гэта выясьніцца на IV Сэсіі Сабору. Пэўна толькі тое, што гэта будзе «група» ці «рада» зложаная з вышэйшых япіскапаў і з розных краёў і народаў — цалкам інтэрнацыянальная, як цяперашні Сабор. Сэнат гэты будзе органам сталым, але будзе зьбірацца пэрыёдычна, паводле патрэбы.

Органам выканаўчым — пад рукою Рымскага папы — будзе новая папская Курыя. Шмат аднак справаў пяройдзе да ведама краёвых япіскапскіх Канфэрэнцыяў і гэтым адцяжыцца работа Ватыкану.

Ці ўтрымаецца Калегія Кардыналаў, у даўнейшым характары, ці ў якім новым, няведама. Над усёю рэарганізацыяй працуюць спэцыялісты ў Ватыкане, а моліцца аб памыснасьць ўся Царква, бо гэтая справа датычыць усяе Царквы і ўсіх вернікаў. Ад гэтага будзе залежыць кіравецтва Царквою, развіцьцё місіяў, злучэньне хрысьціянства, пасьля — саборныя рэформы і ўсё царкоўнае жыцьцё . . .

*Р. Патры-Тамушанскі*

# ШМАТПАКУТНАЯ МАЦІ

Прачыстая Дзева Марыя была ў Божай ласцы звыш усіх стварэньняў. Дзеля таго, што яна — Божая Маці, яна стала слаўнейшаю ад сэрафінаў. Але затое, што яна была Маткай Збавіцеля, яна мусіла разам з ім цярпець у часе свайго жыцьця на зямлі. І вось дзеля таго Марыя называецца Маткай Шматпакутнай, бо цярпела найбольш пасьля свайго Сына.

Смутак і боль трэба мераць вялікадушнасьцяй чалавека, які цярпеньне пераносіць. Глыбокі смутак можа існаваць толькі ў вялікіх душах, і гэта бывае тады, калі тая душа сьведама перажывае страшэнныя падзеі.

Божая Маці, найчысьцейшая з усіх стварэньняў, найпрыгажэйшая душа, учасьнічала ў самых найбольшых і страшных падзеях — у цярпеньнях свайго Сына на Кaліварыі і перажывала іх найбольш сьведама — з поўным зразуменьнем.

Сягоньня, болей чым калісь раней, бачым у сьвеце боль і цярпеньні. Вось-жа нам трэба разважаць, хоць бадай крыху, смутак і боль нашай Шматпакутнай Маткі.

Напэўна час пасьля Дабравешчаньня, тыя таёмныя месяцы чаканьня — аж да Нараджэньня Ісуса Хрыста, былі поўныя радасьці і духовае пацехі для Дзевы Марыі. Успомнім тут, як у кароткім часе пасьля Ражства Божая Маці і Сьв. Язэп прынесьлі Дзіцятка-Ісуса да бажніцы, каб ахвяраваць Яго Богу Айцу.

Калі яны былі ў бажніцы, Сымэон, старэйшы Божы слуга, прыйшоў да іх, узяў Дзіцятка на рукі і багаславіў Бога, які дазволіў яму пабачыць Збавіцеля сьвету. Тады, бачучы Марыю, прараказаў: «Вось ляжыць гэты на ўпадак і паўстаньне многіх у Ізраілю і на знак, якому працівіцца будуць, і табе самой

меч пранікне ў душу, — каб выявіліся памышленьні многіх сэрцаў». (Лука 2, 34-35).

Марыя ня выраклася цярпеньняў: яна хацела перанесьці ўсе фізычныя і псыхічныя цярпеньні і трывогі свайго Сына. Наша Нябесная Матка не наракала на гора, так як мы няраз наракаем у найменшай прыкрасьці. Дык вось Марыя дае нам прыклад цярплівасьці.



Гады ў Назарэце ў прысутнасьці Ісуса мінулі вельмі хутка і спакойна для Сьвятое Сям'і. Ісус узрастаў і быў жвавым хлопчыкам. Калі меў ён дванаццаць гадоў, пайшоў з сваімі бацькамі ў Ерузалім да бажніцы адсьвяткаваць жыдоўскі Вялікдзень. Пасьля ўрачыстасьці, думаючы, што Сынок быў з сваякамі, Марыя і Язэп пачалі падарожжа дамоў . . . Але пры канцы першага дня, не знайшоўшы Яго між родзічамі, яны вярнуліся ў Ерузалім, дзе пільна шукалі Ісуса.

Можна сабе ўявіць, як спужалася, непакоілася — аж да болю сэрца — Дзева Марыя, ходзячы па вуліцах гораду, шукаючы свайго Сына! Ажно трэцьцяга дня яна знайшла свой найдаражэйшы скарб — Ісуса ў сьвятыні. А ўся прычына была разлука і страта Ісуса!

На жаль, часам мы можам быць разлучаныя з Ісусам праз грэх. Ці мы тады стараемся Яго знайсьці, шукаючы ў сьвятыні, ў нашай царкве, у сьвятара — пры сьв. Споведзі? Так, Ісус Хрыстос павінен быць і нашым найдаражэйшым скарбам!

Няма сумлеву, што ў жыцьці Марыі найбольш трагічнай і балючай справай была сьмерць яе наймілейшага Сына Ісуса Хрыста, калі Сын Божы быў укрыжаваны. Ці-ж можа быць які боль і няшчасьце большае для маці як кананьне Сына на крыжы, а яна ня можа ані Яму памагчы, ані нават пацешыць! Бачыла Яго ў цярновым вянку на галаве; бачыла Яго абдзёртага з адзежы перад фарызэямі і нягодным натоўпам, якія яго зьняважалі і выдалі на сьмерць. Маці бачыла, як яе Сын, яе Бог уміраў за грахі сьвету . . .

Так Дзева Марыя цярпела супольна з сваім Сынам, дык дзеля таго мы называем яе «Са-Ўдзельніцай Збаўленьня людзкога роду і Пасрэдніцай усіх ласкаў».

Праз Марыю Хрыстос прыйшоў да нас і таксама праз Марыю мы даходзім да Хрыста. Праз Еву грэх прыйшоў на сьвет, а з ім — усё нешчасьце для людзей; а праз Марыю Ісус Хрыстос прыйшоў, а з Хрыстом прыйшло Збаўленьне і вечнае шчасьце.

Разважыўшы цярпеньні Марыі, будзьма сардэчна спачуваць ёй, як нашай Шматпакутнай Маці. Найлепш пакажам сваё спачуцьцё добрым хрысьціянскім жыцьцём. А разважаючы цярпеньні нашай Маткі і спачуваючы ёй, мы будзем шукаць у гэтым пацехі і палёгкі сабе ў нашых цярпеньнях і крыжох. І мы ясна ўбачым, што нашыя крыжы ня могуць зраўнавацца з болем Шматпакутнай Маці.

А ўканцы ў лучнасьці з Марыяй мы здабудзем гарачае набажэнства да Сьвятых Ранаў Гасподніх і прабітага Сэрца Яго, а з гэтага праўдзівым будзе наш жаль і пакута за грахі. А гэтак узброеныя мы лягчэй пераможам спакусы, будзем жыць па-хрысьціянску і здабудзем вечную нагароду ў небе, бо тады будзем стаяць пад крыжам Хрыстовым разам з Божаю Маткай. Яна падтрымае нас сваім прыкладам і малітваю і не дапусьціць, каб мы ізноў адвярнуліся ад Бога да злога.

Так Божая і нашая Маці давядзе нас да таго шчасьця, якое нам выслужыў яе Сын Ісус Хрыстос. А М А Н !

*Г. Піхура*

# ЯН З ЛІТВЫ

(Першы Беларускі Друкар у Лёндане)



*Лёндански „Steelyard“ (Штальгоф) Балтыйскае Ганзы паводля гравюры Вацлава Голяра. Каля царквы Ўсіх Сьвятых, праўдападобна леваруч, знайходзілася друкарня Яна з Літвы (1480).*

Францішку Скарыне належыцца без сумніву гонар быць першым беларускім друкаром. I зусім слушна, бо слаўны Доктар з Полацку ня толькі надрукаваў у 1517 г. ў Празе чэскай першую кнігу па беларуску (Псалтыр), але таксама залажыў першую друкарню на беларускай зямлі ў Вільні ў 1525 г. Ягоныя кнігі ня былі аднак першымі друкаванымі кнігамі ведамымі на Беларусі. Ужо ад 1492 г. існавала ў Кракаве друкарня пад кіраўніцтвам майстра Сьвятаполка Фіола. З гэтай друкарні вышла некалькі славянскіх літургічных кнігаў, якія былі ведамымі на Беларусі перад паяўленьнем твораў Скарыны.[1]

Цераз імглу гісторыі да нас дайшло імя яшчэ аднаго чалавека, які можа мець права да тытулу першага беларускага друкара, хоць уся ягоная ведамая друкарская дзейнасьць прайшла заграніцаю. Ангельскія гісторыкі і бібліёрафы кажуць, што ў канцы XV-га стаг. жыў у Лёндане нейкі друкар, які называўся Jon Lettou г. зн. Ян з Літвы або Ян Ліцьвін. Ягонае паходжаньне было прадметам дагадак. Усе зграджаюцца, што ён быў чужынцам, і некаторыя старэйшыя гісторыкі ўважалі яго за немца.[2] Аднак большасьць аўтарытэтаў зграджаецца, што Ян быў «літоўскага» (г. зн. беларускага) паходжаньня.[3] Назовы Lettou або Lettow у сярэднявяковай ангельскай мове ўжываліся дзеля азначэньня Вялікага Княства Літоўскага.[4] У тым часе было таксама звычайным зьявішчам сярод чужынцаў дадаваць да свайго імяні назоў гораду ці краіны, адкуль яны паходзілі. Так напрыклад другі лёндански друкар, які праз некі час быў супольнікам Яна з Літвы, называўся William Machlinia (Вільям Мэхлінскі) і паходзіў з флямандзкага гораду Мэхелен. Іншы друкар, з якім Ян мог мець лучнасьць у Італіі, называўся Matheus Moravus (Мацей Мараўскі) і паходзіў з Аломуца ў Маравіі.[5] У

———

[1] Мітр. Ілярыён, «Перводруковании Львівскии Апостол». Наук. Збірнік Укр. Вільн. Акад. Наук у С.С.А., Нью Ёрк 1953, бач. 19-20.

[2] C. Timperly, „A Dictionary of Printers and Printing“, London 1839, b. 173-174.

[3] „British Museum Catalogue of Printed Books in the XVth Century“, Part IV, London 1916, p. XIV; F. Harrison, „A Book about books“, London 1943, p. 116.

[4] Cf. Geo Chaucer, „The Canterbury Tales“ — The Prologue, lines 43-46 & 52-54.

„A Knight ther was, and that a worthy man,
That fro the tyme that he first began
To riden out, he loved chivalrie,
Trouthe and honour, fredom and courteisie...
Full ofte tyme he hadde the bord bigonne
Above alle nacions in Pruce;
In Lettow had he reised and in Ruce,
No Cristen man so ofte of his degree“.

[5] Cf. „British Museum Catalogue of Books printed in the XVth century“, Part VI, London 1930, pp. XLII-XLIII.

кнігах, якія вышлі з друкарні Яна з Літвы, слова lettou пісалася з малой літары. Гэта магло-б сьведчыць, што гэтае слова ўжывалася не як прозьвішча, але дзеля азначэньня паходжаньня друкара.[6]

Нам няведама дзе і калі нарадзіўся Ян з Літвы, ані калі ён пакінуў Вялікае Княства Літоўскае. Некаторыя гісторыкі думаюць, што ён быў вучнем Мацея Мараўскага, бо літары ягоных выданьняў маюць пэўнае падабенства да літараў гэтага апошняга.[7] Мацей Мараўскі паявіўся у Генуі у 1474 г. але ўжо ў наступным годзе пераехаў у Нэапаль, дзе ён дзейнічаў аж да 1492 г.[8] Калі Мацей быў сапраўды настаўнікам Яна, дык магчыма, што ягоны вучань — які меў добрую асьвету і ведаў лацінскую і францускую мовы, — быў студэнтам на Праскім унівэрсытэце ў літоўскай калегіі заложанай каралевай Ядвігай, жонкай Ягайлы. Адтуль ён мог паехаць разам з Мацеям у Італію, або далучыцца да яго там пазьней. Навучыўшыся ад яго пачаткаў друкарства, ён мог выехаць у Англію, дзе былі лепшыя магчымасьці працы для маладога і параўнаўча недасьведчанага друкара. Гэтая тэорыя ёсьць вельмі праўдападобная, але мае сваю слабую старану ў тым, што раньні шрыфт Яна з Літвы ёсьць вельмі падобны, — каб не сказаць аднолькавы, — да шрыфту пэўнага John Bulle, які займаўся друкарствам у Рыме у 1475-79 г.[9] Ня гледзячы на сваё прозьвішча, гэты друкар паходзіў ня з Англіі, а з Брэману ў паўночнай Нямеччыне. Магчыма, што Ян, прыехаўшы у Італію, працаваў некі час у друкарні Буля ў Рыме. Другая магчымасьць ёсьць тая, што Ян спаткаўся і працаваў з Булям яшчэ ў Нямеччыне. Брэман быў адным з гарадоў Ганзы і меў гандлёвыя зносіны з Данцыгам, Кэнігсбэргам і з гарадамі гоцкага узьбярэжжа. Ганза мела таксама свае прадстаўніцтва у Лёндане, якое было звычайным месцам затрымкі для падарожнікаў з усходняй Прыбалтыкі. Гэта ў пэўным сэнсе робіць нам зразумелым, чаму некаторыя гісторыкі ўважалі Яна за немца.

Першы раз мы спатыкаем Яна з Літвы ў Лёндане у 1480 г., дзе яму належыцца гонар быць першым друкаром, які пасяліўся ў лёнданскім city. Ангельскі першадрукар Какстон, які адчыніў друкарню тры гады раней, жыў у Уэстмінстэры. Ёсьць даныя думаць, што Какстон сам заахвочваў Яна і іншых замежных друкароў пасяліцца ў Лёндане. Няведама, ці Ян аадчыніў адразу сваё прадпрыемства, ці праз некаторы час працаваў у якой існуючай ужо друкарні. Скромная якасьць ягоных першых выданьняў і факт, што мы ня ведаем аб ніякіх кнігах выданых ім перад прыездам у Лёндан, прымушаюць думаць, што у Лёндане Ян стаўляў свае першыя крокі ў друкарскім мастацтве.

У першым часе сваей дзейнасьці ў Лёндане Ян надрукаваў некалькі выданьняў Індульгенцыі Папы Сыкста IV-га супроць Туркаў, выданых Дж. Кэндалям. Крыху пазьней ён надрукаваў на кошт Вільяма Вількока выданьне Тамаша Пэнкета кнігі Антонія Андрэя «Questiones super XII libros metaphysicae». У 1481 г., зноў на кошт тога самага Уількока, ён надрукаваў кнігу Тамаша Уалензіса «Камэнтар да Псальмаў».

Паводле Тэмпэрлі, гатыцкі шрыфт, ужываны ў гэтых выданьнях, быў «грубы і паломаны».[10] Іншыя аўтары кажуць, што ягоны шрыфе быў акуратны»,[11] хоць ён безумоўна не заслугоўваў на цэразьмерныя пахвалы, якімі абсыпалі яго некаторыя аўтары.[12]

Дакладнае месцазнаходжаньне друкарні Яна з Літвы у гэтым першым пярыядзе ягонай дзейнасьці нажаль ня ёсьць ведамым.

У 1481 г. Ян увайшоў у супалку з другім замежным друкаром, Вільямам Мэхлінскім. Тэмпэрлі думае, што Ян найперш быў працаўніком у друкарні Уільяма, а пасьля малодшым супольнікам.[13] Гэта было-б звычайным зьявішчам у выпадку маладога і недасьведчанага друкара. Факты аднак змушаюць думаць, што, наадварот, ня Ян, але Вільям быў малодшым супольнікам. Перадусім мы ня ведаем ніводнай кнігі, надрукаванай Вільямам Мэхлінскім перад тым, чым ён уступіў у супалку з Янам з Літвы. Па-другое, калі-б было так, як думае Тэмпэрлі, дык выдаецца няверагодным, каб быўшы працадаўца дазволіў, каб імя ягонага малодшага супольніка было надрукаванае першым на кнігах выданых супольна.

Ян з Літвы і Вільям Мэхлінскі купілі лепшы шрыфт[14] і адчынілі сваю друкарню у City, «недалёка ад царквы усіх сьвятых» (All Hallows). Цэркваў з такім назовам было ў Лёндане аж восем. Паколькі аднак нашыя друкары спэцыялізаваліся ў выдаваньні праў-

[6] Cf. „Tenores Novelli" of Sir Thomas Littleton, London 1481.
[7] Cf. „The Dictionary of National Biography". Ed. 1909, Vol. XI, p. 1012.
[8] Cf. „Brit. Mus. Cat.", Pt. VI, loc. cit.
[9] Cf. „Brit. Mus. Cat.", Pt. IV, p. XIV.
[10] Cf. Timperly, Op. cit., p. 167.
[11] Cf. R. Peddie, „Printing: a short history of the art", London 1927, p. 178.
[12] Cf. R. Ostrowski, „Fragments from the History of Byelorussia", London 1961, p. 83-84.
[13] Timperly, loc. cit.
[14] „Dict. Nat. Biography", loc. cit.

ных кнігаў,[15] дык іхняя друкарня павінна была быць недалёка ад Inns of Court г. зн. дзяльніцы гораду, дзе жылі і працавалі праўнікі. Таму яна найбольш праўдападобна знаходзілася недалёка г. зв. Вялікай Царквы Усіх Сьвятых (All Hallows the Great) каля Тамізы. Характэрна, што гэтую царкву наведвалі купцы Ганзы, чыё прадстаўніцтва ў Лёндане — г. зн. Steel yard або Stahlhof —, знаходзілася побач.

Найбольшым асягненьнем супольнікаў было надрукаваньне клясычнага твору ангельскай праўнай літаратуры, Tenores Novelli аўтарам якой быў Sir Thomas Littleton. Літлетон (прыб. 1407-1481) быў сябрам Inner Temple (адно з чатырох таварыстваў лёнданскіх праўнікаў). Ён быў судзьдзёю і адным з найбольшых аўтарытэтаў у галіне ангельскага земскага права. Паколькі ягоная кніга была першым падручнікам у гэтай галіне, дык выхад яе у сьвет быў важным выдарэньнем ня толькі ў гісторыі друкарства, але таксама ў гісторыі права. Хоць кніга ня мае загаловачнай бачыны, аднак прышушчаецца, што яна была выданая у другой палове 1481 г. Тымпэрлі думае, што Літлетон сам назіраў над яе выданьнем коратка перад сваей сьмерцю.[16] Шрыфт у гэтай кнізе быў лепшым, чым у ранейшых выданьнях Яна з Літвы, аднак ён яшчэ быў далёка не дасканалы. Літары былі «грубыя гатыцкія», «барбарскія і паламаныя», а тэкст быў перапоўнены скаротамі.[17]

Ян з Літвы і Вільям Мэхлінскі надрукавалі яшчэ некалькі кнігаў, у большасьці праўных, супольна, але ўжо ў 1483 г. на загаловачных бачынах красуецца толькі імя Вільяма, а ягоная друкарня знайходзіцца цяпер у Гольборн каля мосту Фліт. Такім чынам дзейнасьць Яна з Літвы ў Лёндане трывала крыху больш, чым тры гады. Што сталася з ім пасьля —няведама. Паводле аднак адной тэорыі, вельмі прывабнай, хоць без дастатковых даных, Ян, стаўшыся майстрам друкарства, выехаў з Англіі у Кракаў.[18] Там ён памагаў Фіёлу залажыць друкарню і надрукаваць па славянску «Трыядзь» і «Актойх». Ёсьць пэўныя меркаваньні, якія можна прывесьці ў абарону гэтай тэорыі. Вялікі князь Казімер, які панаваў у Кракаве як польскі кароль, быў вялікім прыхільнікам і патронам «літоўскага» мастацтва. Ян з Літвы павінен быў быць досыць маладым, калі ён прыехаў у Лёндан, калі мы будзем уважаць досыць нізкую якасьць ягоных першых твораў, як вынік браку дасьведчаньня. Пазьней ён робіць значны поступ наперад. Моўныя цяжкасьці аднак напэўна перашкаджалі яму ў разьвіцьці ягонай дзейнасьці, асабліва, калі попыт на кнігі ў жывой ангельскай мове рос з дня надзень з вялікай шкодаю для лацінскіх выданьняў. Удасканаліўшы сваё майстэрства, што магло быць больш натуральным для яго, як вярнуцца да свайго князя, каб пад ягонай дабразычлівай апекаю падзяляць разам з Фіёлам практычную манаполію на друк славянскіх кнігаў?

Як-бы там ня было, але для беларусаў, якія сяньня жывуць у Англіі, ёсьць прыемна думаць, што пяцьсот год таму іхні зямляк хадзіў па вуліцах Лёндану і нават пакінуў значны сьлед сайго побыту ў гэтым горадзе.

*а. Я. Гэрмановіч.*

# Мае прыяцелі — Францісь Рамэйка

*(Успаміны)*

Рамэйка, (аб якім я ўжо ўспамінаў у 1 (88) нумары «Божым Шляхам», калі пісаў аб Зэнону Якуцю), стаўся маім прыяцелям выпадкова і на кароткі час. У 1923 годзе вясной мяне назначылі на парахвію ў м-ка Лужкі, Дзісьненскага павету і там у суседзтве, ў парахвіі Задорожжа — ў 10-ці кілёмэтрах ад Лужак — я знайшоў гэтага сьвятара, (трагічнай памяці) Рамэйку.

Задарожжа (і бездарожжа) — гэта вёска, закіненая ў такой глушы, воддаль ад усякіх людзкіх дарог, а прытым палажаная на глiністым грунце, што туды немагчыма было у дажджыстую пару ні даехаць, ні дайсьці! Аднойчы я тамака ў суседнім мястэчку Плiссе, едучы вазком дзісьненскага стылю — высокім і плыткім — падчас густога дажджу восеньню — з усяго размаху вывернуўся сярод нябрукаванай вуліцы: мая рука загразла ў

[15] Ян з Літвы і Вільям Мэхлінскі надрукавалі разам пяць праўных кнігаў. Пасьля адыходу Яна, Вільям выдаў другое выданьне кнігі Літлетона (гл. тэкст).
[16] Timperly, op. cit., p. 174.
[17] Timperly, op. cit., p. 167.
[18] R. Ostrowski, op. cit., p. 84.

балота да пляча, а я сам... няма чым пахваліцца! А быў адзеты ў паліто і ў бурку — было холадна і зябка непамерна...

Дружба мая з Рамэйкам была ажыўленая ягоным бойкім характарам, поўным энэргіі і ініцыятывы. На дзіва касьцёл у Задарожжы выносіўся над усю ваколіцу і быў відны здалёку з усіх бакоў, бо Задарожжа ляжала на месцы крыху прыпаднятым; дый будова была вялікая, новая, высокая і прыгожая, а дзьве вежы проста стралялі ў неба! Праўда, і парахвія там злажылася немалая, але такі касьцёл мог быць аздобай і паважнага гораду.

За кароткі час — адзін год — мы з Рамэйкам пераж**ы**лі багата розных прыгодаў. Нашыя характары ня сходзіліся шмат у чым: у кожным спатканьні, нават у кожнай размове, мы натыкаліся на справы, якія канчаліся ажыўленай спрэчкай. Ён занадта навязваў ідэі, што мне аніяк не пасавалі, аднак мы ня толькі не сварыліся, але дружылі сардэчна і гасьцілі адзін у другога часта.

Аднойчы летам падчас нашага абеду у Задарожжы пярун так моцна ўдэрыў у касьцёл, што прабіў франтовую сьцяну ў самым тоўстым месцы і папсаваў арган. Пасьля мы аглядалі фіялетавую пасму, што прабегла па сьцяне на хоры. Некатарыя палякі гаварылі, што гэта здарэньне было карай Божай затое, што на хоры гралі і пялі беларускія набожныя песьні. Але шкода ў аргане аказалася нязначная.

Рамэйка меў музыкальныя здольнасьці: ахвотна пяяў сам і вучыў моладзь і дзяцей пяяць па беларуску. Да сьпеву памагаў сваей гітарай, а гэтым ажыўляў кожную сьпеўку. На маё няшчасьце, я ня мог у гэтым яму ані памагаць, ані яго насьледаваць: мог толькі і любіў слухаць.

Францісь меў ахвоту пагутарыць зь людьмі на ўсякія гаспадарскія і грамадзкія тэмы: быў у парахвіі ўсюды сваім чалавекам, які разумеў сваіх людзей і яны яго разумелі і ахвотна ўсюды прыймалі.

У 10-ці кілёмэтрах ад Задарожжа была парахвіяльная нова-збудаваная, каменная вялікая капліца — ў форме вясковага гумна. Вёска называлася Чарневічы. Там у большыя іхнія сьвяткі і адпраўлялася набажэнства і аднойчы Рамэйка запрасіў мяне сказаць там навуку па беларуску. У тых гадох ані біскуп, ані польскі ўрад яшчэ так востра не забараняў гаварыць казаньне ў роднай мове, як гэта пасьля дзеілася. А Чарневічы аказаліся так наскрозь беларускай грамадою, што інакш гаманіць да іх проста было-б неразумна і грэшна. Помню добра, як я свабодна пачуваўся на амбоне: маё казаньне плыло з сэрца да сэрца. Увесь Божы народ слухаў, затаіўшы дух; і так глядзелі ў вочы, каб ня згубіць аніводнага слоўца! І трэба-ж... я сказаў прыклад, які ўжо паўтараў у другіх мясцох і які наагул рабіў на людзей добрае ўражаньне, праўда, крыху сьмешны, але затое ясны і праконваючы. Аднак у Чарневічах гэты прыклад я выразіў так жыва і пранікліва, што увесь касьцёл раптоўна пыркнуў стыхійным сьмехам мне цалкам неспадзявана, бо я ніколі ня кусіўся ўцягваць народ у плач ці сьмех — аж я ня ведаў, як рэагаваць!..

Праўда, «тутэйшыя» прамоўцы, якія ў працягу стагодзьдзяў гаварылі ў касьцёлах навукі беларусам па польску, прамаўлялі такой польшчынай, што сапраўдныя палякі называлі яе «літоўскай» мовай. Ды і то разумела яе часткова нязначная частка людзей. А як сьвятар мацней крычаў, дык бабы яшчэ мацней плакалі.

Калі прафэсар Віленскай сэмінарыі Л-ц гаварыў беларусам аб пэсымізьме і мэлянхоліі, дык пасьля «разумнейшыя» тлумачылі простаму народу, што «ксёндз задаў маліцца за душу сьвятой Мэлянхоліі»

*

У 1923 годзе 15-га жніўня, на сьвята Ўнебаўзяцьця Найсьвяцейшай Дзевы Марыі (на Гаспажу), калі я прыехаў у Задорожжа, Рамэйка назначыў мне казань па нешпарах.

Гаварыць па нешпарах значна цяжэй: людзі прымучаныя, няўважлівыя і сам прамоўца выступае пасьля фэстовага абеду, а паветра ў касьцеле больш прыгрэтае і парнае... Дый на мяне надыйшло сумняваньне, што будзе ў касьцеле перашкода-авантура збоку польскіх «патрыётаў». Я ня меў ніякіх інфармацыяў, а толькі прачуцьцё. Кажу Рамэйку: «так і так...» А ён кажа:

— Я тут — пробашч і я адказваю, а ты гавары!

— Бачыш, кажу, што я яшчэ нідзе ня меў перашкоды і ня ведаю, як рэагаваць. А ты маеш, як старэйшы чалавек, практыку... Парадзь мне!

— Ідзі — гавары і няма чаго баяцца.

Што-ж? з Рамэйкам спрачацца я ня ўмеў і пайшоў на амбону. Думаў: калі будзе авантура, дык затрымаюся і памяркую.

Аж і праўда! толькі я пачаў гаварыць па беларуску — аж чую і бачу, што з прэзьбітэрыі выходзіць стары высокі чалавек — з вялікай барадою і гамоніць да людзей: «Выходзьце — выходзьце!..» Відаць, інтэлігент. Людзі яму даюць дарогу і ён так прайшоў праз увесь доўгі касьцёл, голасна выклікаю-

чы народ, але ніхто да яго не далучыўся і ўся бура на ім пачыналася і канчалася...

Я адразу зьмеркаваў, што ягоны бунт ня ўдаўся і я тут не перарваў сваей прамовы, праводзячы тэму памысна да канца. А гэты пан *Яцына* толькі асьмешыў сам сябе.

✳

З гэтым самым Яцынай я меў спатканьне другое ў 1924 г., 24-га чэрвеня, на Сьв. Яна, у Друйскай парахвіі, дзе я ўступіў у кляштар.

У дзень Сьв. Яна адпраўлялася набажэнства ў капліцы Малькоўшчына. Капліца даволі вялікая, але зьмясьцілася ў ёй можа 4-а частка прысутных. Пасьля літургіі ўвесь народ зграмадзіўся на магільніку ля капліцы і а. Андрэй Цікота пачаў навуку па беларуску. Я-ж стаяў на парозе капліцы і слухаў навуку. Аж бачу, што пад'ехаў і затрымаўся воддаль той самы Яцына!

Я адразу падумаў: ну, будзе авантура! Чакаю.

Яцына зьлез зваза і стаў за народам — слухаць казаньне. Раптам закрычаў: — А досыць тобе по москевску гадаць! —

Нешта там яшчэ крычаў, але я ўжо не дачуў. І ўбачыў я, што ля яго народ пачаў хваляваць: паказаліся над Яцынай кулакі і мужчыны пачалі наступаць. Я спужаўся, што старога могуць прыбіць і кінуўся напярэз мужчынам, каб стрымаць іх. А Яцына, ўбачыўшы мяне, крычыць: — А і ты тут!..

Замест таго, каб падзякаваць мне, Яцына мяне пачаў лаяць. Я-ж не гляджу на яго — стрымліваю людзей і не магу даць рады. Аж Цікота перарваў казаньне і шыбка пасьпяшыў да мяне і мы ў двох стрымалі націск узварушанай грамады, а Яцына ужо пасьпеў сесьці на свой воз і з сынам ўдэрылі па кані. Як мы адыйшлі ад мужчын, яны кінуліся ў дагонку за Яцынам і толькі забурчэлі за ўцекачамі каменьні. Яцына пасьпеў цэлы ўцеч, не аглядаючыся.

Тады Цікота вярнуўся на сваё месца і запытаўся ў народу: — Па якому хочаце мець казаньне: «Па беларуску-у-у!..» галасіла таўпа.

✳

Вясной 1924 г. я разьвітаўся з сваей парахвіяй у Лужках і ўступіў у кляштар у Друі да аа. Марыянаў і разам з тым разыйшоўся з а. Францісём Рамэйкам. Ён мяне ўсьцяж нагаварваў аставацца ў сьвецкім духавенстве, але я станоўка зь ім не згаджаўся. Маё разьвітаньне зь ім было цяжкое: Рамэйка пачуваўся як-бы пакрыўджаным асабіста і апушчаным. І мне яго было шкода. Мы разыйшліся на заўсёды: і фізычна мы ўжо былі на адлегласьці кілёмэтраў больш 70-ці і ідэёва вельмі далёка.

Пасьля нейкага часу Рамэйку перанесьлі ў іншую, яшчэ больш адлеглую парахвію, а я ў 1932 г. выехаў у Манджурыю. Да мяне даходзілі чуткі аб нейкіх клопатах Рамэйкі, але бліжэйшых вестак аб ім я ня меў. Нарэшце я зь вялікім сумам даведаўся, што Рамэйка згінуў трагічна.

У 19?? ён прыбыў у Вільню, зайшоў да памешканьня а. Адама Станкевіча. Гаспадыня пакінула яго ў кватэры і ён, чакаючы на паварот Станкевіча, знайшоў у яго схаваны равольвар і затрэліўся.

Якая была прычына самагубства, нельга было даведацца: казалі, што нэрвовая хвароба: Рамэйка ў Вільні напярэданьні сьмерці хадзіў да розных дахтараў, а ў спатканых знаёмых пытаўся: — «Глядзіце, што ў мяне ў вачах?»

Біскуп прызнаў у Рамэйкі нэрвовы шок і пазволіў пахаваць яго са сьвятаром, але раненька і без народу.

Казалі мне знаёмыя, што Рамэйка ня мог спакойна перанесьці націску палітычнай і духоўнай улады супраць беларускай дзейнасьці ў касьцеле і ў парахвіі...

Вечны супакой няшчасному чалавеку! Мне прыходзілі сумнівы, ці ня лепш было-б не разлучацца з Франуком, але ён не паддаваўся пад мой уплыў і я ня мог разгадаць, што справы могуць закаціцца так далёка.

А на душы маей усё-ж вельмі сумна!

# З царкоўнага жыцьця

БРАЗЫЛІЯ: Сао Паўлё — у Паўдзённай Амэрыцы стварылася новая сытуацыя — пачалі раптоўна разрастацца некатарыя гарады: сярэднія становяцца вялікімі. З гэтага паўстаюць новыя труднасьці ў духоўным пастырстве: паўстаюць новыя прадмесьці, у якіх не хапае сьвятыняў і немагчыма іх так шыбка набудаваць і даць туды духавенства, якога і так не хапае ў старых парахвіях. Дзеля гэтае праблемы і труднасьцяў сабраўся зьезд дэлегатаў усяе Сярэдняе і Паўдзённае Амэрыкі ў горадзе Сао Паўлё.

*

ФРАНЦЫЯ: У Парыжы ад 10 да 16 сакавіка адбываўся «дыялёг» інтэлігентнай моладзі на тэму: «Бог — сяньня», — значыць, што цяперашнія людзі думаюць і гавораць аб Богу? Гэта было спатканьне веруючых у Бога і атэістаў — на роўных правох — з пашанай асобы. Адбываліся лекцыі з дыскусіяй. Між атэістамі былі пераважна марксісты. Лекцыі чыталі 32 асобы.

Усіх займала справа маральнага ўпадку грамадзтва і што патрэбна для адраджэньня? Разважалася такжа справа супрацоўніцтва людзей добрай волі.

*

ПОЛЬШЧА: Каталіцкая Царква прабуе навязаць «дыялёг» з урадам: кардынал Вышынскі выслаў дэклярацыю да дырэктара спраў рэлігійных і прапануе назначыць спатканьне. На набажэнстве ў сваім казаньні кардынал жаліўся на дыскрымінацыю каталікоў: у школах вучыцялі дапытываюцца дзяцей, ці ходзяць да касьцёлаў. Урад забірае студэнтаў-сэмінарыстаў у войска, не даючы ім скончыць студыяў, калі сьвецкім студэнтам даецца адтэрміноўка. Такжа сэмінарыстаў у войску прымушаюць да студыяў атэізму, дый саліцытуюць, каб ня вярталіся ў сэмінарыі, абяцаючы розныя палёгкі і ільготы на сьвецкіх студыях і г. д.

*

СУДАН: Край магамэтанскі, у якім пануе моцны недавер і націск на каталіцкія місіі і на каталіцкія школы.

*

КАНСТАНТЫНОПАЛЬ: Кардынал *Бэа* з сваей асыстай прыбыў да Патрыярха *Атэнагара* як папскі дэлегат з візытай: гэта была папская рэвізыта на патрыяршае пасольства да папы. 3-га красавіка, калі папскія дэлегаты прыбылі ў Фанар — сталіцу патрыярхату — званілі званы прывітаньня — прыязнага і брацкага Патрыярх вітаў дэлегатаў з усім сваім Сынодам.

Кардынал сказаў у прамове: «Першая карысьць дыялёгу любові, найбольш ясная і прыкметная, гэта ёсьць нашая супольная пастанова прыгатаваць — кажны ў сябе — ў сваей Царкве — ўсё тое, што патрэбна да лучнасьці і так супрацоўнічаць з запалам сэрца да поўнага паеднаньня, якога жадаў Спасіцель.

Патрыярх адказаў па грэцку: «Мы зноў сталі на моцны грунт даўнейшага братэрства, на грунт, на якім бачым разьвіцьцё справы абновы.

«Сяньня так на Захадзе, як на Ўсходзе робяцца пастановы і знакі любові і ўзаемнае супрацы, якія яшчэ нядаўна здаваліся немагчымымі.

«Дык вось у гэтым мамэнце мы можам вас заверыць, што з найбольшай радасьцяй і здаваленьнем вітаем тут усякую вашую дзейнасьць у гэтай справе».

Папскія дэлегаты перадалі Патрыярху папскую грамату ў адказ на даручаную нядаўна ў Рыме грамату патрыярха.

Кардынал Бэа візытаваў у Канстантынопалі такжа армянскага Патрыярха Шнорк Калёўстіан.

У нядзелю 4-га красавіка Патрыярх адпраўляў Літургію Сьв. Васіля Вялікага. Перад Літургіяй увайшла папская дэлегацыя ў царкву ў Фанары: Патрыярх займаў трон Сьв. Яна Залатавуснага, устаў на спатканьне кард. Бэа, даў яму пацалунак супакою і запрасіў на трон з свайго правага боку. Газэта Ля Круа пісала: «Гэта — першы раз пасьля 9-ці вякоў . . . »

У сваей грамаце, якую паслаў Павал VI Патрыярху, Папа пісаў: «Прыход вашых двух выдатных паслоў і ліст Вашае Сьвятасьці ажывілі ўспамін нашага спатканьня ў Ерусаліме, памяць якога мы глыбока захавалі ў сэрцы. Сяньня кардынал Аўгустын Бэа прыносіць наш пацалунак супакою і брацкае любові.

У сваім лісьце Папа выражае сваю волю і радасьць, што можа далыш праводзіць стараньні свайго папярэдніка, Яна XXIII-га, а такжа ўсяго II-га Ватыканскага Сабору, аб еднасьць хрысьціянаў.

*

РЫМ-ВАТЫКАН: *Папа Павал VI* адпраўляў 7, III, 1965 Сьв. Літургію ў касьцеле парахвіяльным у Рыме — Ўсіх Сьвятых — *па італьянску!* Паводле рэформы ўведзенай на Саборы, што для народу трэба адпраўляць у народных мовах, апрача ціхіх малітваў у каноне. Гэтак Папа зрабіў пачатак сваіх публічных набажэнстваў у Рыме, чародна адпраўляючы ў Валікім Посьце ў важнейшых парахвіях Рыму.

Папа высказаў у прамове да пробашчаў Рыму, што ведае, якія будуць труднасьці, праводзячы рэформу ў практыку. Да XX-га веку ла-

ціна перапрывала, як літургічная мова Каталіцкай Царквы і раптам парадак мяняецца! Лаціна была мовай нэўтральнай і народы да яе прывыклі і зжыліся зь ёю: ёсьць шмат рацыяў супрацьсаборнай рэформы, аднак справы важнейшыя дамагаюцца правесьці рэформу, паміма ўсякіх пратэстаў і прывычак.

У Ірляндыі, напрыклад, якая затраціла сваю мову падчас ангельскага прасьледу каталіцкай веры і ірляндзкай нацыі, цяпер прыходзіцца ўводзіць у літургію тую-ж ангельскую мову! У Амэрыцы, дзе пры лаціне яшчэ вэгетавалі народныя мовы (польская, летувіская, славацкая, чэская і інш.) цяпер трэба ўводзіць народную мову, а моладзь ужо не даецца, ўважаючы ангельскую (ці «бруклінскую») за сваю народную мову! Нават сама Італія адчувае прыкрасьць пераходу на італьянскую мову ў касьцёлах. Дзеля таго Павал VI асабіста праводзіць загадану рэформу ў літургіі. Каб да гэтага прывыкнуць, трэба будзе дзесяткаў гадоў.

Сам Ісус Хрыстос служыў літургію ў мове жыдоўскай і апосталы — таксама; але ўжо Сьв. Павал Апостал анітрошкі ня сумняваўся, калі пераходзіў на грэцкую мову і грэцкая стала літургічнай мовай паўсюдна. Нават у Рыме, як можна праканацца з надпісаў у катакомбах, лаціна ўваходзіла толькі ў III веку і то вельмі паволі. Дык хто пасьмее ставіць закіды Паўлу VI-му, што жадае зьлюзаваць лаціну на карысьць народных моваў?

Кажны разумее, што ў эпоху, калі Японія, Індыя і іншыя старыя вялікія народы стаяць на парозе хрысьціянства, дык уводзіць яго разам з лацінскай мовай, было-б і неразумна і шкодна.

*

РЫМ: У Вялікі Чацьвер Павал VI у базыліцы Сьв. Яна мыў ногі 12 калекам з дзіцячага шпіталя і... цалаваў! Было прысутных маса народу і 18 кардыналаў. Гэты абрад ёсьць прыняты ў Каталіцкай Царкве — за прыкладам Хрыста, што ўмываў ногі Апосталам.

У Вялікую Пятніцу Папа адпраўляў набажэнства ў базыліцы Божае Маці «Маджыёра», а вечарам адбываў з народам Крыжовую Дарогу ад аркі Канстантага да Колізэум.

У Вялікдзень раніцай Папа меў Літургію на прадмесьці Рыму ў парахвіяльным касьцеле, а другую — на пляцы Сьв. Пятра. Багаславенства даваў з балькону ў звычайнай япіскапскай мітры (Папа перастаў ужываць тыяру!) і з крыжом у руцэ — прытым заклікаў увесь сьвет да згоды і міру.

*

Нэнні, правадыр італьянскіх сацыялістаў, быў 12, IV прыняты на аудыенцыю у Папы. Ён ведамы праціўнік хрысьціянскіх дэмакратаў і няпрыхільны да Царквы. Нядаўна дамагаўся на паседжаньні міністраў, каб Папа плаціў італьянскай дзяржаве спэцыяльны падатак ад сваіх фінансаў. Аднак зажадаў наведаць Папу асабіста і гаманілі з сабой даволі доўга, але не аб справах грашавых, толькі аб самай важнай: як супакоіць збаламучаны сьвет і прадухіліць катастрофу вайны? Бо вайна пагражае згубай і каталіком, і сацыялістам і ўсяму сьвету... — Пры разьвітаньні абмяняліся падаркамі: Павал VI падараў Нэньні залаты гадзіньнік Папы Яна XXIII.

*

ЯПОНІЯ: У Токіё прыбыў кардынал Мэрэльля, прэзыдэнт у Сакратарыяце для рэлігіяў няхрысьціянскіх: меў спатканьне з прадстаўнікамі розных рэлігіяў. Быў прэзыдэнт асацыяцыі будыстаў, галава шынтаістаў, такжа япіскапы праваслаўныя, англіканскія і пратэстанцкія.

Кардынал заклікаў усіх веручых да супрацы — усіх людзей добрае волі — казаў, што трэба супольна разрашаць найважнейшыя цяпер справы — вайны, матэр'ялізму, голаду і беднасьці. «Мы бачым, — казаў — што цяперашні сьвет падзяліўся на розныя групы, якія шыкуюць адны на другіх аружжа, што можа падчас канфлікту зьнішчыць усё чалавецтва. Вы, Японцы, ведаеце лепш ад другіх народаў, якое няшчасьце і пагібель зьмяшчаецца ў атамнай бомбе.

«Дык вось трэба, каб зразуменьне, брацтва і любоў замянілі недавер і гэтую страшэнную пагрозу.

А яшчэ горшая пагроза і «бомба» — казаў — гэта матэр'ялізм-атэізм, які забівае ўсякую рэлігію і лучнасьць людзей добрае волі.

Гэты кард. Марэльля быў апостальскім дэлегатам у Японіі ад 1933 да 1949 г. Прыбыў цяпер на сьвяткаваньне 100-годзьдзя павароту місіянэраў у Японію. 300 гадоў трываў прасьлед Каталіцкае Царквы і ўсё-ж немалая частка патомкаў каталікоў перапрывала без сьвятароў праз тры вякі і дачакалі свабоды і павароту місіянэраў.

*

ЭГІПЕТ — КАІР: У унівэрсытэце — цэнтры ісляму — кардынал гор. Вены Кёніг правёў лекцыю для студэнтаў музулманаў на тэму: «Монотэізм у цяперашнім сьвеце». Казаў, што існуе вялізнае поле для супрацы веручых хрысьціян і магамэтан. Казаў, што трэба змагацца з матэр'ялізмам, які вучыць, што чалавек ёсьць адзіны гаспадар на сьвеце. І казаў, што атэісты Ўсходу і Захаду лучацца ў сваіх поглядах і ў змаганьні з верай у аднаго Бога. А Эванэлія і Каран вядуць да веры ў Бога. Між хрысьціянамі і магамэтанамі патрэбна зразуменьне і поўная талеранцыя.

ФІЛІПІНЫ: Парлямант прыняў рэзалюцыю — ўвесьці навучаньне рэлігіі ў школах.

*

ЧЭХІЯ: Украінскі япіскап грэка-катал. Гопко засуджаны ў турму на ўсё жыцьце у гор. Тэпліцэ: ад 1951 году, калі быў засуджаны, няма аб ім пэўных вестак.

*

ДЫЯЛЁГ ЦАРКВЫ І СЬВЕТУ — 13 СХЭМА: адносіны Царквы да сьвету. Справа такая важная, што фактычна дзеля яе была назначаная IV Сэсія і прадоўжаны Сабор. Цяпер усьцяж працуе над гэтай Схэмаю КАМІСІЯ, якая выдзеліла 7 падкамісіяў і разьдзяліла ўсю працу для перапрацоўкі: сюды ўваходзяць людзі духоўныя і сьвецкія — япіскапы, сьвятары, экспэрты, аўдытары і аўдытаркі. Разважаюць пытаньні: аб людзкой асобе ў грамадзтве, аб жанімстве і сям'і, аб культуры, аб голадзе і беднасьці і інш.

*

«ПІГУЛКА». Спэцыяльная Камісія у Ватыкане разважае справу «концэпцыі» — пачацьця у лоне маткі і пытаньне аб «пігулцы» — Справа працягваецца і набрала у сьвеце разгалосу. У Камісію закліканы большы лік сьвецкіх спэцыялістаў-лекараў і прадстаўнікоў ад сем'яў — з розных краёў. Папа просіць каталікоў, каб захавалі цярплівасьць і дыскрэцыю, а Камісіі дае поўную свабоду працы і дыскусіі і просіць, каб лішне не працягвалі сваіх паважных досьледаў.

# З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

Англія

## ІПАДЫЯКАНСКІЯ СЬВЯЧАНЬНІ

У нядзелю 21-га сакавіка ў царкве сьв. Пятра і Паўла ў Лёндане Дастойны Уладыка Часлаў Сіповіч рукапалажыў у іпадыякана сп. Рабэрта Тамушанскага.

Гэта была скромная, але ўзрушаючая ўрачыстасьць. Сяньня, пры малой колькасьці сьвятарскіх прызваньняў, рукапалажэньне беларускага кандыдата беларускім япіскапам (ды — дадамо — у беларускай царкве) зьяўляецца рэдкай падзеяй і таму набірае асаблівага значэньня.

Пасьля рукапалажэньня Дастойны Уладыка служыў архіерэйскую Літургію. Саслужылі: Мітрафорны Пратаерэй Ул. Салавей, які ў тым часе гасьціў у Лёндане, і Рэктар Бел. Каталіцкай Місіі ў Англіі а. Л. Гарошка.

Новы іпадыякан зьяўляецца студэнтам багаслоўя у духоўнай сэмінарыі ў Кэнігштайне ў Нямеччыне.

## САКАВІКОВЫЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦІ Ў ЛЁНДАНЕ

Адзначэньне угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў гэтым годзе ў Лёндане было вынікам высілкаў ня толькі саміх беларусаў, але і іхніх ангельскіх прыяцеляў.

У чацьвер 25-га Сакавіка вечарам сп-ня Макмільлян ладзіла прыняцьце ў чэсьць 47-мых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. На прыняцьці прысутнічалі прадстаўнікі дыпляматычнага корпусу (з нямецкай, гішпанскай і францускай амбасадаў), сябры ангельскай арыстакратыі (Лёрд Дафэрын і Ава, Лёрд Освальд, Барон Бістам, Ледзі Гарлех і інш.), паслы парляманту партыяў ураду і апазыцыі і шмат іншых выдатных прадстаўнікоў ангельскага грамадзтва. Сярод прысутных беларусаў былі Дастойны Уладыка Часлаў Сіповіч, Мітр. Прат. Ул. Салавей, спадар і спадарыня Бутрымовічы і іншыя.

На наступны дзень газэта «Дэ Таймс» зьмясьціла вестку аб прыняцьці.

У нядзелю 28-га сакавіка раніцай у царкве сьв. Пятра і Паўла Уладыка Часлаў, у саслужэньні з Мітр. Прат. Ул. Салаўём і а. А. Надсонам, адслужыў урачыстую сьв. Літургію за Беларусь. Тэмаю казаньня паслужылі словы Хрыста: «Аддайце цэзарава цэзару, а Божае Богу» (Мт. 22, 22). Навязваючы да іх, Дастойны Уладыка прадставіў нашае імкненьне да нацыянальнай незалежнасьці, як імкненьне да зьдзейсьненьня прыродных правоў, якія маюць свой пачатак у Богу.

У часе Літургіі сьпяваў хор вучняў Школы сьв. Кірыла.

Па паўдні гэтага самага дня адбылася ўрачыстая акадэмія ў Беларускім Доме. Старшыня ЗБВБ, сп. Ул. Буртымовіч, зрабіў вельмі зьмястоўны даклад. Прыводзячы шматлікія канкрэтныя факты, ён зрабіў агляд шматвяковай дзяржаўнай традыцыі беларускага народу.

Мастацкая частка праграмы складалася з канцэрту, наладжанага хорам і аркестрай вучняў Школы сьв. Кірыла. Кіраваў хорам а. Рабэрт Тамушанскі.

На заканчэньне было скромнае прыняцьце наладжанае кіраўніцтвам Беларускага Дому.

## ВЫСЬВЯЧЭНЬНЕ ІКОНЫ СЬВ. КІРЫЛА ТУРАЎСКАГА

Школа сьв. Кірыла Тураўскага наканац дачакалася іконы свайго нябеснага апякуна. Ікона гэтая была намалёваная бэнэдыктынскімі манашкамі з манастыра Ле Като ў Францыі.



*Лёндан, 4-га красавіка. Урачыстае перанясеньне іконы ў школу Сьв. Кірыла Тураўскага*

У нядзелю 4-га красавіка Дастойны Уладыка Часлаў, пасьля сьв. Літургіі, пасьвяціў ікону. Пры гэтай нагодзе а. А. Надсон сказаў, па беларуску і па ангельску, казаньне у чэсьць сьвятога, нарысаваўшы ягоную постаць, як вялікага сьвятога, добрага пастыра і таленавітага пісьменьніка і паэта.

У той самы дзень пасьля абеду Уладыка Часлаў у акружэньні сьвятароў, настаўнікаў і вучняў урачыста перанёс ікону з царквы ў Дом сьв. Кірыла. Там яна была павешаная пры галоўным уваходзе. Пры гэтым Уладыка зьвярнуўся з словам да вучняў, кажучы, што ад гэтай хвіліны Школа сьв. Кірыла мае новага Жыхара, які не займае месца і не спраўляе нікому клопату, але апякуецца ўсімі, хто жыве ў яго Доме і памагае тым, якія яго просяць. Уладыка заклікаў усіх вучняў браць прыклад з сьв. Кірыла Тураўскага, які аддаў поўнасьцю свае вялікія здольнасьці і глыбокую веду на славу Божую і на службу свайму народу.



*Група сяброўак Беалрускага Юнацкага Клюбу ў Брадфардзе на сьвяткаваньні дня незалежнасьці Беларусі*

## СЬВЯТА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ Ў БРАДФАРДЗЕ

Стараньнямі мясцовага аддзелу ЗБВБ, сьвяткаваньне угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі адбылося ў Брадфардзе ў сыботу 27-га сакавіка ў памешканьні Беларускага Дому.

Распачалося сьвяткаваньне ад Малебну, які адслужыў настаяцель БАПЦарквы, а. Я. Абабурка, у капліцы ў Беларускім Доме.

Пасьля Малебну была акадэмія, якую адчыніў і вёў старшыня Аддзелу, сп. Я. Калбаса. У ўступным слове ён прывітаў прысутных, а таксама прачытаў прысланыя сьвяточныя прывітаньні.

Вельмі добры і глыбокі быў даклад, у часе якога вельмі ўмела быў выкарыстаны магнітафон дзеля мастацкага эфэкту. Гэта зрабіла вялікае ўражаньне на слухачоў, асабліва калі яны пачулі словы 3-цяй Уставадаўчай Граматы. Прачытаў даклад Інж. Б. Кляйноў.

Сяброўкі юнацкага клюбу, у нацыянальных строях, цешылі прысутных песьнямі і танцамі. Прыгожа граў на акардыёне малады музыкант Антон Мучынскі.

Мясцовая газэта, «Тэлеграф энд Аргус», зьмясьціла вестку і здымку з сьвяткаваньня.

Канада

### УРАЧЫСТАСЬЦІ Ў АШАВЕ

Беларусы ў Ашаве сьвяткавалі ў гэтым годзе 47-мыя ўгодкі незалежнасьці Беларусі вельмі ўрачыста.

23-га сакавіка беларуская дэлегацыя, у складзе сп. сп. В. і Г. Харэвічаў, сп-ні Л. Мачко і сп. А. Маркевіча, была ў бурмістра гораду Ашавы і перадала яму беларускі сьцяг і літаратуру аб Беларусі. У чацьвер 25-га сакавіка, на гарадзкой ратушы, побач з канадыйскім красаваўся і наш беларускі нацыянальны сьцяг.

У нядзелю 28-га сакавіка раніцай а. Прат. М. Мацукевіч у саслужэньні з а. Запарынюком адслужыў урачыстую багаслужбу ў мясцовай украінскай царкве. Ён сказаў прыгожае казаньне аб героях — змагарах за долю свайго народу.

Па паўдні ў той самы дзень адбылася урачыстая акадэмія. Кіраваў акадэміяй сп. Я. Пітушка. Сярод прысутных былі даст. Дэвід Ган,



*25-га Сакавіка: Беларускі Сьцяг побач з канадыйскім красуецца на ратушы горада Ашавы*



*Беларуская дэлегацыя ў бурмістра горада Ашавы*

лібэральны пасол у Канадыйскі парлямант, даст. А. Валькэр, пасол у парлямант Антарыё, радны гораду Ашавы алд. А. Шастакоўскі і шмат іншых прадстаўнікоў канадыйскага грамадзтва. Сярод прысланых прывітальных тэлеграмаў былі тэлеграмы ад даст. Лестэр Пірсана, прэм'ера Канады, і ад галавы апазыцыі, даст. Дж. Дыфэнбакэра.

Пасьля музычнага выкананьня канадыйскага гімну, і дэклямацыі дзецьмі малітвы «Магутны Божа», сп. К. Акула прачытаў цікавы даклад па ангельску. Натупна сп. Р. Беразоўскі выступіў з дакладам у беларускай мове.

Мастацкая частка акадэміі была вельмі багатая. Беларускія дзеці выкааналі песьні (О, Беларусь, мая шыпшына; Васілёчкі), танцы (Крыжачок, Бульба, Полька-Янка і, бязумоўна, Лявоніха). Цікавай была інсцэнізацыя байкі М. Танка «Журавель і чапля». Кіраўніку мастацкай часткі, сп. Б. Лішчонку, а таксама сп-ням Л. Рагулі і В. Пашкевіч і сп. Б. Кірко, належыцца шчырая падзяка за так добрую падрыхтоўку.

Аб сьвяткаваньні пісала мясцовая газэта «Ошава Таймс» і гаварыла радыястанцыя СіКэйЭлБі.

Сьвяткаваньне было наладжанае стараньнямі мясцовай управы Беларускай Самапомачы, а асабліва ейнага старшыні сп. Г. Харэвіча.

## БЕЛАРУСКАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў ТОРОНТО

У Торонто Згуртаваньне Беларусоў Канады адзначыла ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў нядзелю 4-га красавіка. Раніцай а. Прат. М. Мацукевіч адслужыў Багаслужбу і сказаў прынагоднае патрыятычнае казаньне. Пасьля абеду ў памешканьні БР-ГЦ адбылася акадэмія. Вёў акадэмію старшыня мясцовага аддзелу ЗБК, сп. М. Ганько. Даклад на гістарычную тэму зьвязананую з нашым нацыянальным сьвятам прачытаў Др. В. Жук. Моладзь з Ашавы, пад кіраўніцтвам сп. сп. Б. Лішчонка і Б. Кіркі, цешыла прысутных сваімі мастацкімі выступамі.

Беларускае Нацыянальнае Аб'еднаньне адзначыла 47-мыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ўрачыстай багаслужбай і малебнам, якую адслужыў у царкве сьв. Эўфрасіні а. Прат. В. Сагайдакіўскі, які сказаў пры гэтым вельмі патрыятычнае казаньне. Пасьля Багаслужбы, усе, хто мог, паехалі на акадэмію ў Ашаву.

### Францыя

## СЬВЯТА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ Ў ПАРЫЖЫ

Беларусы ў Парыжы адзначылі ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў нядзелю 28-га красавіка. Раніцай у капліцы сьв. Людвіка, а. Леў Гарошка адправіў урачыстую сьв. Літургію. Хор французскіх студэнтаў сьв. Ірынэя, пад кіраўніцтвам сп. Дэ ля Прадэль, прыгожа сьпяваў старыя беларускія літургічныя напевы. Пасля абеду, у салі «дэ Шартр», адбылася ўрачыстая акадэмія пры вялікім удзеле беларусаў і гасьцей — чужынцаў. Адчыніў акадэмію сп. М. Наўмовіч. Старшыня Рады БНР, Інж. М. Абрамчык, прачытаў вельмі зьмястоўны даклад. На заканчэньне было наладжанае скромнае прыняцьце.

# Прасьлед рэлігіі ў Беларусі

У савецкай газэце «Літаратура і Мастацтва», з 9. III. 1965, пададзена вестка, што ў Валожыне, Ашмянскага павету, яшчэ стаіць у касьцеле вельмі вартасны арган работы італьянскіх майстроў. Касцёл забраны атэістамі на цэх Міжкалгасбуду (так марнуюцца касьцёлы гістарычнай і культурнай памяткі!) і там той арган пакінены без апекі — аж толькі цяпер зацікавіліся ім спэцыялісты, калі праз доўгі час быў нішчаны дзецьмі на цацкі. Газэта пратэстуе, кажучы: «Ці ня час вярнуць інструмант народу?»

Мы пракананыя, што ўсё, Бог дасьць, будзе зьвернена народу, але тымчасам савецкі атэізм нішчыць усё тое, што не пасьпеў зьнішчыць нягодны нямецкі фашызм.

«Настаўніцкая газэта» з 10. III. 1965 заклікае: «Выхоўваць ваяўнічых атэістаў»! і хваліць настаўніка хэміі ў Жырмунах, які не прамінае выпадку, каб на ўроках не раскрыць рэакцыйную сутнасьць рэлігіі . . .»

Так Багусэвіч і інш. вядуць «навуковаатэістычнае выхаваньне».

Такое «выхаваньне» і прыводзіць да таго, што памятнікі старадаўнасьці абертаюцца на цацкі!

Л І Д А : «Касьцёл Сьвятога Язэпа Калясантага з кляштарам Закону аа. Школьных-Піяраў, фундацыя Ігната Сціпіёна 1756 г. Мураваны будынак касьцёла і кляштару збудаваны ў гадох 1797—1825, а ў г. 1832 ўсё забрана на праваслаўную царкву. У г. 1919 зьвернута каталіком і ў г. 1922 зноў перададзена Айцом Школьным Піярам». Гэтая інфармацыя ўзята са сьпіску «рубрыцэля» Віленскай Катал. Кансысторыі. Далей даём фото касьцёла і інфармацыю з савецкае газэты «Беларусь», № 1, 1965 г., бач. 5. Характэрна, што напіс дадзены па расейску — «Плянетарий»).

Пішуць: «Усё менш і менш станавілася паклоннікаў у рэлігіі . . .»

Гэта зусім магчыма, бо і ў Самога Хрыста не стала паклоннікаў, як быў укрыжаваны — паразьбегаліся . . . Дык і ў Саветах Царква ўкрыжаваная, але няхай здыймуць тэррор і прасьлед, дый ізноў людзі адбудуюць свае сьвятыні. (Увага! Падаём савецкі тэкст бяз зьмены і фото касьцёла).

«Святыя» айцы і не задумваліся, якое будучае ў гэтага памяшкання з купалам, вялізнымі калонамі, калі амаль сто гадоў таму назад збіралі сродкі на яго пабудову. Спачатку тут размяшчаўся касцёл, затым царква, а потым каталікі зноў аддаявалі яго ў праваслаўных і зноў зрабілі касцёл.

Але каму б ні належала гэтае памяшканне, святошы з амбона сеялі смуту, цемрашальства, затуманьвалі вочы людзей.

Ішоў час. Усё менш і менш станавілася паклоннікаў у рэлігіі. А затым касцёл зусім апусцеў. Апошнім адсюль выбіраўся ксёндз Раек.

Савецкая ўлада вырашыла перадаць гэтае памяшканне, некалі пабудаванае на народныя сродкі, для службы народу. У касцёле стварылі гісторыка-краязнаўчы музей. Экспазіцыі гэтага музея расказваюць аб гістарычным мінулым Лідчыны, аб Вялікай Айчыннай вайне, аб савецкім перыядзе жыцця. Вялікае месца займае антырэлігійная прапаганда.

Не так даўно грамадскасць горада ў самай вялікай зале касцёла вырашыла абсталяваць планетарый. Апаратуру прыслалі спецыялісты з Маскоўскага планетарыя, дапамаглі ўстанавіць яе.

У лістападзе адбылося адкрыццё. Апаратура планетарыя дазваляе дэманстраваць зорнае неба, розныя астранамічныя з'явы, паказваць рух нябесных свяціл. За кароткі час тут пабывалі тысячы наведвальнікаў. Яны даведваліся аб будове свету, аб розных з'явах, якія адбываюцца ў бязмежнай касмічнай прасторы.

І. ЛЕШАНЮК, Я. ПЯТАКІН.



Будынак Планетарыя.

ЛІСТ З УСХОДУ: Вельмі многа радасьці прынесла пісьмо, фотографія Ваша і абразкі, якія я атрымаў на шосты дзень па высылцы, за што Вам гарача дзякую.

Акурат я гэта атрымаў у страшны момант, у чорну часіну майго няшчасьця, якога дасюль ня меў у сваім жыцьці.

Вялікая апека Божая над ксяндзом Татарыновічам, што ён ёсьць пры жыцьці, яго супрацоўнікі беларускія сьвятары згінулі з рук нямецкіх, як вялікія мучанікі.

Калі ў 1941 годзе немцы занялі Беларусь, грамадка беларускіх ксяндзоў пад правадырствам кс. др. Станіслава Глякоўскага, прыехала у Менск, каб тут абняць каталіцкія касьцёлы і распачаць місыйную працу. Да гэтай грамадкі беларусаў Місіянэраў далучыўся і я, як малады законнік Францішканін (навіцьюш). У Менску, гдзе людзі 13 год (пры бальшавіках) ня мелі касьцёлаў і не бачылі каталіцкага сьвятара, мы засталі шэсьць касьцёлаў замененых:

1) Катэдра — на аўто-гараж,
2) Касьцёл Сьв. Сымона і Галены — на кіно-тэатр жыдоўскі,
3) Касьцёл Дамініканскі — на шпіталь,
4) Касьцёл Бэрнадынскі — на магазын,
5) Касьцёл г. зв. «Жоўты» — на магазын,
6) Касьцёл на магілках «Кальварыя» стаяў пусты, а сёмы касьцёл вельмі прыгожы «Залатая Горка» быў спалены — тут мясьціўся архіў. Таксама і кругом Менска касьцёлы былі заменены, а соткі тысяч каталікоў высланы. У самым горадзе Менску асталося толькі 17 тысяч каталікоў.

Ахвярныя каталікі Менска, калі даведаліся аб прыезьдзе ксяндзоў, сталі дружна да рамонту касьцёлаў. Па вуліцах, збураных вайною, падбіралі плыты і гэтым улажылі ў катэдры пасадзку, павыцягвалі жалезтва, ачысьцілі сьцены сьвятыні.



*Група хлапчукоў у дзень 1-ае Камуніі (Прычасьце) ў Менску*




*Беларускі каталіцкі катэдральны касьцёл. Так выглядалі па вайне 1941 г. некаторыя вуліцы Менска. Катэдр. касьцёл ацалеў.*

8-га верасьня 1941 году катэдра не магла памясьціць народу, да якога Кс. Др. Глякоўскі з амбоны прамовіў: «Вясёлы дзень нам сёньня настаў...» Ад плачу і ляманту, які падняўся ў сьвятыні, трудна было народ успакоіць. Ад гэтага дня аспачалася праца місыйная. Штодня соткі хрысьцілі, спавядалі, вянчалі — людзі туліліся да касьцёла як дзеткі да маткі.

Я бяз оддыху вёў катахізацыю моладзі. Жылі мы разам з Кс. Татарыновічам на аднэй плебаніі — якія-ж ён цудныя гаварыў казаньні!

Па колькі месяцах гэнай усільнай працы сталася страшная рэч: немцы арыштавалі ксяндзоў. Кс. Татарыновічу ўдалося выйсьці з іх рук і выехаць, арганісты выехаў у Вільню, закрыстыян таксама, а я астаўся адзінокі. Ня перарваўшы сваей працы, пры замкнёных галоўных дзьверах катэдры вучыў моладзь катахізму. І з ласкі Божай за якісь час прыехаў у Менск літоўскі ксіондз капэлян, апрача сваіх жаўнераў аддаўся працы для народу цывільнага. Казаньні гаварыў па беларуску.

Апрача Менска, выяжджаў я ў суседнія парахвіі як Лагойск, Смалевічы, Узда, Сьмілавічы, Аннапаль, Самахвалавічы, Суцін, Пухавічы і другія. Усюды народу каталіцкага было многа: вучыў я моладзь катахізму, прыгатоўваў да жанімства. А калі усё было прыгатавана, прыяжджаў да мяне ксіондз, абслужыў усіх, а я ехаў да другое парахвіі. І так працавалі мы тры гады.

Перад самым фронтам немцы пазволілі прыехаць у Менск беларускаму Кс. Шутовічу. Я з ім пераæжыў фронт і чатыры месяцы быў у Менску па фронце, а пасьля ўдалося мне выехаць у Польшчу, а Кс. Шутовіч па вялікіх цярпеньнях як мучанік памёр. (Увага: Кс. Шутовіч быў вывезены і засуджаны на 10 гадоў бальшавікамі, у 1955 выпушчаны, прабыў нядоўга ў Вільні, а пасьля пераехаў у Барыслаў і там памёр).

## *З беларускае прэсы:*

СЯЎБІТ: Сакавік—Красавік, 1965, Вялікодны нумар. Пераважна заняты паэзіяй а. Я. Тарасэвіча і ягонай прозай. Добры артыкул на 25-га Сакавіка: тут зьвязана Сьвята Дабравешчаньня з народным Сьвятам Незалежнасьці Беларусі.

№ 44-ты на Май—Чэрвень на ЎШЭСЬЦЕ больш ажыўлены, нават зьяўляюцца весткі! Адзначаецца Сьвята Маткі і Айцоўская Годнасьць. Гарачы верш з нагоды 50-цігодняга ЮБІЛЕЮ а. МІХАЛА УРБАНОВІЧА.

БАЦЬКАЎШЧЫНА: Сакавік, № 2 (629), 1965. У нумары: «Зварот Прэзыдэнта БНР М. Абрамчыка да беларускай эміграцыі». Далей: аб камуністычнай праграме дэнацыяналізацыі і «Сабатуецца белар. кніга» і інш.

НАВІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ (Агляд сав. друку), 28. II. 65, № 4 (27). У нумары: Шэксьпіравы санэты пабеларуску, Пытаньне дзіцячых песьняў, Гісторыя бел. этнаграфіі і інш.

ЦАРКОЎНЫ СЬВЕТАЧ: Год XIV, 1964, № 4—5. Выдае: Царкоўная Рада Белар. Праваслаўнае Царквы. Соут Рівэр, Амэрыка.

БЕЛАРУСКІ ГОЛАС: Люты, 1965, № 124. Торонто, Канада.

ЗЬНІЧ: Студзень—Сакавік, 1965, № 81, Год XVI. Увесь нумар заняты вельмі цікавымі тэмамі. Гарачы і магутны верш Янкі Купалы пачынае Новы Год: «Паўстань з народу нашага, Прарок... Пясьняр... Ваяк... Уладар!..»

Крыху трудна зразумець, што значаць у артыкуле словы: «Наўсьперш, усадоміць, струм, жывуальны, вырынацца, сьледамкі, сусьціг, тропат, уснавальны, вадзінакрыніца, ацямленьне» і інш.

Нам здаецца, што, калі Царква (Экклезія) ўводзіць нават у Літургію народныя мовы, каб Божае слова было даступна ўсім, дык і беларусы будуць больш рады, калі мы будзем даваць ім выясьненьні ў мове зразумелай.

ГОЛАС ЦАРКВЫ: часапіс праваслаўных Беларусаў, № 21, Вялікдзень, 1965 г. «Радуйцеся!» — гэты заклік дамінуе ўва ўсім нумары. «Хрыстос Уваскрос»: у Ім нашая вера, надзея і любоў. «У Пятніцу і Суботу ўсе ворагі Хрыстовыя радаваліся, што Праўду Божую пахавалі і запячаталі ў Гробе, а... Хрыстос Уваскрос!» Беларусы, «Толькі цьверда веруйце ў Яго, і прыйдзе наш Трэйці Дзень!». Цікавы арт. «Грэцкая Праваслаўная Царква».

# *Для цікавасьці і навукі:*

Найдаўжэйшая вуліца ў Аргентыне — ў Буэнос Айрэс: называецца Рывадабія і мае 20.000 нумароў дамоў.

Др. В. Пудду ў Рыме высказаў, што найбольш мужчын, што раптоўна ўміраюць на хваробы сэрца, вінаваты самі, бо 1) ядуць за тлуста, 2) зашмат кураць, 3) зашмат сядзяць і 4) лішне клапоцяцца.

«БЕДНАЯ» спадарыня Барбэр захварэла і перавезьлі яе у шпіталь: з жалям пакінула 45 катоў, 7 сабачак, 3 трусоў, 9 папугаяў і 18 канаркаў, зь якімі жыла ў адным памешканьні! Здарэньне з Англіі.

ПАМЯТНІК СТАЛІНА ў Празе чэскай, з граніту, важыў 18 тысяч тоннаў, 30 мэтраў вышыні; а сам «бацька народаў» важыў 960 тоннаў! Звалілі яго!

✳

КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА Ў АФРЫЦЫ: 250 мільёнаў людзей, а толькі 10 працент зь іх — каталікі. Аднак поступ Сьв. Эванэліі — вялікі. Найтруднейшая місія — паміж музулманамі, але тыя прынамсі вераць у аднаго Бога; але вялізныя масы — пагане. Усё-ж Хрыстос пасылае сваіх апосталаў і цяпер: там лічаць да 3 мільёнаў чорных, што шыкуюцца да хросту.

І ў Эўропе адносіны вельмі трудныя для Царквы: нават у старых каталіцкіх краёх: у Францыі пашыраецца паганства, абыякавасьць і атэізм, — 20 працэнтаў няхрышчаных!

ЛІСТЫ прылятаюць у рэдакцыю: з Нью Ёрку — 2 дні, з Чыкаго — 3 дні, з Лёс Анджэлес — 4 дні, з Аўстраліі — 6-7 днёў і з Варшавы — 2 тыдні, а з Бразыліі — 6 днёў!

ПАШТОВЫЯ маркі рэлігійнага зьместу: у 1964 г. выпушчана такіх у розных краёх каля 200 гатункаў, найбольш як памяткі юбілеяў: 400 год сьмерці Міхала Анёла Буонаротті, маляра, скульптара і архітэкта; 800 год катэдры Нотр-Дам у Парыжы, такжа у памятку папы Яна XXIII, 22 афрыканскіх мучанікаў і інш. (Міхал Анёл маляваў у Ватыкане у Сыкстынскай капліцы на суфіце стварэньне сьвету і людзей, а на сьцяне за аўтаром Страшны Суд. Ён-жа выкаваў у мармуры слаўную скульптуру, т. наз. «Піета» — Божая Маці трымае цела Ісуса Хрыста, зьнятае з крыжа. Цяпер знайходзіцца у Амэрыцы на выстаўцы. І ён выкаваў фігуру Майсея, што знайходзіцца ў базыліцы 12-ці Апосталаў у Рыме. І М. Анёл выканаў геніяльны плян базылікі Сьвятога Пятра).

✳

БРАЗЫЛІЯ абходзіць сёлета 400-юбілей закладзінаў гораду Ріо де Жанэйро у 1565 г. Назова азначае «РАКА студзенская», бо на Новы Год прыбылі партугальцы ў заліў, аб якім памылкова думалі, што ёсьць вусьцем ракі, і тут залажылі горад.

На гэтым сьвяткаваньні Папа прамаўляў па партугальску да бразылійцаў і падчас прамовы запаліў праз радыё нэонавыя лампы пры фігуры Хрыста. Гэтая магутная фігура з высокай гары пануе над усім агромным горадам і над далёкімі ваколіцамі.

✳

ШТО КАЖУЦЬ ЛІЧБЫ І ПРАЦЭНТЫ?

Чалавек патрабуе яды у дзень на 2700 калёрыяў, але у Францыі, Швайцарыі, Аргентыне маюць больш як 3000 калёрыяў, а ў Індыі ледзь могуць мець яды на 1700 кал.: значыць, або паўгалодныя, або зусім галодныя.

Француз зьядае у год 70 кг. мяса, а ў Конго — 1 кг. І Француз выпівае ў год 100 літраў малака, а гіндуз — 6 літраў.

Але голад закрадаецца да багатых краёў, дзе для карысьці багачоў сеюць больш прамысловых расьцінаў, як збожжавых: ні табак, ні бавоўна, ні цукровы трасьнік галодных людзей не насыцiць.

КНІЖКІ Ў РЭДАКЦЫІ:

а. Я. Гэрмановіч — Успаміны — «Кітай-Сібір-Масква»

І. Н. — Лемантар.

Вінцук Аважны — Сучасная Казка — «Князь і Лапаць»

Кс. К. Стэповіч — Голас Душы.

а. Леў Гарошка — Св. Еўфрасіня-Прадслава Полацкая.

Васіль Друя — Ты і Яна.

*Вінцук Адважны*

# БАИКІ

## КУРЫЦА І ГАСПАДАР

*Як пан лавіў, дык курка здуру*
*Крычала быццам дзёрлі скуру —*
*Аж гусі з індыкамі*
*Казалі ёй: — Васпані!*

*— Чаго крычыш, лапочаш,*
*Ці з панам біцца хочаш?*
*Відаць, цябе ён любіць,*
*Бо так галубіць . . . —*

*А курачка старая*
*Так цяжка уздыхае:*
*— Пан, кажа, з добрай мінай*
*Трымае нож за сьпінай . . .*

## АСЁЛ У ЛЬВІНАЙ СКУРЫ*

*Асёл зьмяніў натуру,*
*Адзеўшы львіну скуру —*
*Зьвяры тады з трывогі*
*Зыходзілі з дарогі.*

*А з той падступнай здрады*
*Асёл быў надта рады.*
*Аж вецер падчас буры*
*З асла зьдзёр скуру:*
*Убачылі зьвяраты —*
*Давай шукаць адплаты!*
*Па ім так малацілі —*
*Аж сто гузоў набілі. —*
. . . . . . . . . . . . . .
*«Асёл, трымайся меры —*
*Ня лезь ў чужыя дзьверы!*

## ВОЎК І АВЕЧКІ*

*Раз воўк, залезшы на гару,*
*У раньнюю пару,*
*Убачыўшы авец,*
*Як добры іх айцец,*
*Іх прывітаў: — Мір вам! —*
*І стаў спускацца сам.*
*Баран як забляяў,*
*Замарматаў:*
*— Хоць воўк багаслаўляе,*
*Ратуйся, брат, хто ногі мае! —*
. . . . . . . . . . . . . .
*Ня страшны вораг, як крычыць.*
*А страшны, як маўчыць.*

---
* Паводле армянскіх баек з XIII стаг.

---

# *Зь лістоў у рэдакцыю*

КАЛІФОРНІЯ: Наагуль кідаемся памаленьку: працую пастарому; хаця гразіла звальненьне, бо наша кампанія купіла кампутар, але дзякаваць Богу заціхла. Нічога, абы здаровыя былі, дык пражывём! З Бацькаўшчыны пішуць лісты, што ўсё бяз зьмен, толькі дзядзька пахваліўся, што новая ўлада плаціць яму пэнсію па старасьці (яму 70 гадоў) — 8 рублёў у месяц; таксама хваліўся, што на Каляды былі ў Касьцеле і было перапоўнена людзей. Ляхавіцкі і Дараўскі касьцёлы закрыты, адслужваюцца Сьвятыя Імшы толькі ў Мядзьведзіцкім і Баранавіцкім касьцёлах, але прозьвішчы ксяндзоў ня хочуць падаваць — баяцца.

(Увага Рэд.: Дзядзька Н. нашага рэдактара кравец, ў Брукліне мае 72 гады і атрымлівае эмэрытуру па старасьці 150 даляроў у месяц!).

Значыць, доўга прыдзецца ляхавіцкаму дзядзьку даганяць амэрыканскага, каб зь ім зраўнавацца!

*

БРАЗЫЛІЯ:

Даражэнькі а. Язэп, Хрыстос Уваскрос!

Прывітаньне Вам і брату Міколе,

І ўсяму дому і школе,
Каб неяк жылося
І добра вялося:
Хрыстос памагаў-бы,
Ад бяды ратаваў-бы.
Бывае й трывога,
Што вядзе да Бога:
З дарогі ня зьбіцца,
Нам трэба маліцца —
Што вядзе нас у Друю —
Бацькаўшчыну дарагую. —
Мне неяк здаецца,
Што йшчэ давядзецца,
Памаліўшысь Богу,
Сабрацца ў дарогу.
Я-ж меў-бы нагодку
Паехаць ў Слабодку.
А там бяз крыжочку
У жоўтым пясочку
Мама й тата й тыя
Браты дарагія
Ляжаць, пачываюць —
На мяне чакаюць, —
(Дый каб не забыцца
За іх памаліцца!).
Летам, ці зімою,
А найлепш вясною,
Як птушкі сьпяваюць —
Бога выхваляюць —
Памерці спакойна
У Хрысце дастойна —
Легчы разам зь імі —
Людзьмі дарагімі...

*Язэп Пашкевіч*

Ріо дэ Жанэйро,
21, IV, 1965.

*

Кёнігштайн, 29. 4. 1965

Высокадастойны а. Рэдактар!

Ужо даўно абяцаў Вам напісаць гэтае пісьмо, аднак да сяньня цяжка было знайсьці патрэбны час.

Мы скончылі зімавы сэмэстр пры канцы лютага і ужо некалькі дзён перад тым я здаў памысна свае эгзамены.

Хоць жывём мы тут у мясцох узвышаных, але зіма ня была цяжкая: затое надта часта ліў дождж, ляжаў туман і морак, як у вашым Лёндане. Толькі той карысьці, што гэткая пагода прымушае нас да навукі.

Напэўна найважнейшая падзея у маім жыцьці — ад часу майго апошняга пісьма — было маё рукапалажэньне на лектара і паддыякана у нашым усходнім абрадзе. Гэтае здарэньне усцяж стаіць перад маімі вачамі і прымушае да глыбокіх думак: у нашай беларускай Царкве Сьвятых Апосталаў Пятра і Паўла у Лёндане Уладыка Часлаў Сіповіч перад самай службай прыняў мяне да бліжэйшай Божай Сям'і дня 21 сакавіка, гэтага году.

Людзі кажуць, што гэта было здарэньне гістарычнага мамэнту ня толькі для мяне, але і для нашае эміграцыі, якая так мала мае кандыдатаў на сьвятароў, а ў нашай беларускай Царкве — выпадак першы.

Мае канікулярныя дні заўсёды неяк хутка мінаюць і вось я пачаў свой сэмінарскі курс навукі: лекцыі пачаліся ўчора, 28 красавіка, якраз у дзень Сьв. Кірыла Тураўскага, нашага беларускага сьвятога, а прытым і вялікага вучонага.

Шмат новых студэнтаў прыбыло на спарожненыя месцы. Маю крыху больш працы у гэтым сэмэстры — 26 гадзін што тыдня у клясах, аднак матар'ял цікавы, а прафэсары моцныя. Ведама, гэта памагае.

Уся прырода прыняла новае аблічча: усюды зелянеюць дрэвы, пахнуць прыгожыя кветкі — вясна закрасавала!

І жадаю Вам, а. Рэдактар, усяго найлепшага, найбольш моцнага здароўя.

Астаюся адданы Вам у Хрысьце

Ваш *Робэрт Тамушанскі*

## ЛІСТ З АЎСТРАЛІІ

Высока Дастойны Айцец Я. Г.!

Перадусім шчыра дзякую за ліст, як заўсёды — мілы, але гэтым разам крыху і сумнаваты.

Вельмі прыкра было даведацца, што Вы сябе нядобра пачувалі. Хаця так звычайна, людзкая рэч, аднак — няпрыемная. Пацяшаюся, што Вашае здароўе папраўлілася і найшчырэй жадаю Вам павароту да поўнага здароўя, бо яно важнае і Вам і нам. Бо прыемна, а перадусім карысна пачытаць вашае друкаванае слова. І толькі магу шкадаваць, што вы так далёка ад нас, што няма можна пачуць вашых слоў і пабачыць Вас асабіста. А такіх слоў пацяшаючых — хто-ж не патрабуе? Бо жыцьцё, як жыцьцё: нават у найлепшым бываюць мінуты цяжэйшыя і цямнейшыя, падчас якіх добрае слова так шмат можа зрабіць!

Асабіста не наракаю тымбольш, што апошнім часам чуюся фізычна даволі добра, ды і духова даволі моцна. Праўда, вясна, якая цяпер ёсьць у нас, сваё робіць. От, сяджу, пішу пры акне. А праз акно — колькі колераў!

Каля самага акна — роза цьвіце, зараз за ёю — бэз, а ў куточку цыпрыс — высокі «пад неба». Крыху далей «плакучая» бярозка, за ёю — сасна ўжо амаль вышэйшая за хату: крышку збоку — лімон, які цьвіце колькі разоў у год і мае колькі разоў фрукты; каля яго — ясень і «піхэс». На фронце ўздоўж штахэтак — кусты розаў і іншых каляровых кветак.

Вельмі прыемна! І ўсё перад маім акном. Люблю папароцца ў гародзе. Як вяртаюся з працы — нават з начной зьмены, абавязкава папрацую ў гародзе: адпачну сабе. І толькі тады магу пайсьці колькі гадзінак спакойна паспаць.

Так і сяньня: ня будзіў сваіх, як вярнуўся дамоў. Напаіў, накарміў сваю «прыроду»: траву, кветкі і дрэвы, а таксама і кролікаў, марскіх сьвінак (ёсьць тымчасам 7, але колькі дзён будзе колькі дзесяткаў!), курачак і сабаку. Усе яны спатыкаюць мяне па свойму. І як толькі пачуюць самаход — адразу пачынаюць свой канцэрт. Усе просяць ёсьці. Нармальна — гэта прыемнасьць дзяцей, але фатычна абавязкі ляжаць на мне.

✳

Прыпомніўся мне цяпер і ваш гарод у Марыян Гоўзэ. Толькі разоў там бываў! Толькі разоў браў удзел у розных імпрэзах на вольным паветры! Пры нагодзе — прывітаньне ўсім жыхаром у Марыян Гоўзэ.

Пасьля такога пачатку — вяртаюся да вашага лісту. Шкода, што Вам ня ўдалося ўзяць удзелу ў Саборы. Вельмі цікавы. Зрабіў круты паварот у жыцьці каталікоў, дый і ў хрысьціянскім.

Моцна прыблізіў каталікоў да праваслаўных — да старога хрысьціянства. Пэўна, з гэтага я асабіста вельмі задаволены. Доўгі час жыў і працаваў сярод каталікоў (палякаў), якія праваслаўных трактавалі дрэнна, як нейкага «сэктанта», чалавека ніжэйшай клясы. Сьмешна. Але якжа цяжка было ў такіх абставінах жыць і працаваць! А да гэтага будучы яшчэ беларусам.

Сяньня ўсё зьмяняецца. Найвышэйшая пара. У карысьць перадусім нашых каталікоў, а і ў карысьць беларусаў, бо гэта — старая праблема: сярод нас ёсьць каталікі і праваслаўныя — было шмат непаразуменьняў, з прычыны найбольш каталікоў, а фактычна — каталіцкіх сьвятароў. Таму магу цешыцца, што мінулае адыходзіць да гісторыі.

✳

Адносна матар'ялу з аўстралійскага жыцьця — карэспандэнцыі — пастараюся нешта напісаць пазьней. А ў лістох маіх да Вас заўсёды можаце нешта выкарыстаць, калі будзеце ўважаць за патрэбнае.

Жадаю ўсяго найлепшага. Шчыра Вам адданы

*М. Н.*

Мэльбурн, 11. XI. 1964.

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖНЫХ ЧЫТАЧОЎ

Хто чытае, а ня плаціць,
Сам на гэтым болей траціць:
Вечна доўг у сэрцы ные,
Як той воўк пад хатай вые...

Часапіс наш хто чытае,
Той ШЛЯХ БОЖЫ ўспамінае —
Старадаўныя законы,
Беларускія загоны —
Дом свой родны,
Быт свабодны...

Эмігранты, гэй, з размахам
Пойдзем сьмела БОЖЫ ШЛЯХАМ!
Жыцьцём чэсным, словам Божым
Злыя сілы пераможам.

✳

Чытаць дарма годзі — досыць!
Вам рэдактар весткі носіць
І падпіскі
У ВАС просіць...

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Сп. Д-к Я. — 2 $ на «Б. Шл.» атрымалі. Дзякуем!

Др. І. Р. — Саўтгэмптон — 1 £ на «Б. Шл.» атрымалі. Дзякуем!

Др. Сц. Ал. А-а — 8 £ на Фонд Разб. Школы атрымалі. Вельмі дзякуем!

Сп. Нк. Лёс Ангелес — 6 $ за кніжкі «Кн. і Л.» атрымалі. Дзякуем!

Сп. Сп. П-с, П-ч, Д-к, Б-ль — па 3 $ на «Б. Шл.» атрымалі. Усім шчыра дзякуем!

Сп. Сп. К-ль і Ш-ць — па 5 $ на «Б. Шл.» атрымалі. Вялікі дзякуй!

Увага: — (Вылічаныя Сп. з Брукліну і Нью Ёрку) Квітанцыі высланы Сп-і Кахан.

Сп. Ч. Н-к з Лёс Анджэлес — 6 $ за кніжкі. Дзякуем!

Сп. П. М-іч, — Амэрыка, Нью Джэрсі 5 $, І. Сп. І. К-ая з Нью Ёрку — 4 $. Дзякуем!

Сп. С. Х-а з Саут Рывэр — 10 $. Вельмі Дзякуем!

Сп. С-цкі з Лёндану — 3 £ і Сп. Яз. Р-іч з Лёндану — 1 £. Дзякуем!

Сп. С. Б-іч з Ковэнтры — 2 £ на «Б. Шл.» і 3 £ на Фонд Разб. Вельмі Дзякуем!

Сп. Ч-а М. з Нью Джэрсі — 10 $ атрымалі і раздзялілі паводле Вашае думкі.

Сп. В. Д-іч з Нью Брансьвік — 19 $ за кніжкі, 5 $ на «Б. Шл» і 10 $ на Фонд Разб., а такжа праз Вашыя рукі: Сп. К-а 5 $, і Сп. Сп. Л-Ст-іч, І. Р-к, В. Д-а па 3 $ і Сп. К-іч 2 $ — усё атрымалі і ўсім шчыра дзякуем!

Сп. П-скі Р. з Слёўг, Англія — 2 £ на «Б. Шл.» Дзякуем!

Сп. Яз. П.віч із Браз. — Ваш ліст з віншаньнем — вершам — атрымалі і Вам жадаем усяго найлепшага!

Сп. М. Б-скі з Бірмінгам — 2 £ на разбудову Школы. Дзякуем!

Сп. Е. К-скі з Клівэленд — £ 1, 1 шыл. і 5 п. Дзякуем!

Сп. Ал. Зд-ч з Лёндану — £ 1 за кніжкі і час. Дзякуем!

### АБВЕСТКА

### БЕЛАРУСКІЯ РАДЫЯПЕРАДАЧЫ З МАДРЫДУ

передаюцца штодзённа ў гадзінах ад 20.30 да 20.50 і ад гадзіны 22.30 да 2250 менскага часу, на хвалі 32.04 мэтра, што адпаведае 9.363 mKc/S

## ЗЬМЕСТ:



Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b H., München 19, Bothmerstr. 14.